Народная Воля 15 САКАВІКА 2001 г.

Навіны

## "МАЗ-МАН" пачынае новы праект

**Сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства ЗАТ "МАЗ-МАН" абвясціла аб пачатку другога этапа ў развіцці праекта.**

Як паведамілі БелаПАН на прадпрыемстве, заснавальнікі СП зацвердзілі рэалізацыю праграмы па пашырэнні мадэльнага рада. "МАЗ-МАН" прыступіць да выпуску шасі пад спецтэхніку — самазвальныя паўпрычэпы, аўтабетонамяшалкі і камунальную аўтатэхніку, а таксама самазвалы. Уласны канструктарскі аддзел СП цяпер распачаў распрацоўку новых мадэляў. Хуткім часам для правядзення кансультацый на прадпрыемства прыбудзе спецыяліст кампаніі "МАН Нутцфарцойге АГ".

Апрача распрацоўкі новых мадэляў, да канца 2001 года на прадпрыемстве будзе наладжаны серыйны выпуск седлавых цягачоў, аснашчаных рухавікамі па нормах Еўра-3. У маі ў Мінску таксама пачне працаваць уласная рамонтная майстэрня СП, якая дапоўніць наладжанае сервіснае абслугоўванне аўтамабіляў "МАЗ-МАН" і арыгінальных аўтамабіляў "МАН".

**Даведка БелаПАН.** Сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства ЗАТ "МАЗ-МАН" створана ў снежні 1997 года. Асноўныя заснавальнікі — нямецкая кампанія "МАН Нутцфарцойге АГ" і ВА "БелаўтаМАЗ". Доследная партыя з 15 седлавых цягачоў была сабрана сумесным прадпрыемствам у красавіку-маі 1998 года, коштам на той момант каля 60 тысяч долараў ЗША кожны. За тры гады існавання СП спажыўцам рэалізавана звыш 300 адзінак аўтатэхнікі, галоўным чынам на рынках Расіі, Беларусі і іншых краін СНД.

**Аляксей АРЭШКА.**

## У Гродне ставяць краты на лесвічных клетках

**Жыллёва-эксплуатацыйныя службы Гродна распачалі ўсталёўваць у жылых дамах драўляныя краты на вокнах лесвічных клетак.**

Робіцца гэта з мэтай папярэдзіць выпадкі гібелі людзей, якія выпалі з вокнаў пад'ездаў, што стала частай з'явай у апошнія месяцы. Краты ўстанаўліваюцца, як правіла, у дамах так званай "чэшскай" планіроўкі, дзе вокны знаходзяцца досыць нізка і моладзь скарыстоўвае іх рамы ў якасці сядзенняў.

Напрыклад, у пачатку бягучага года адбыўся трагічны выпадак, калі ў Гродне з акна лесвічнай пляцоўкі на шостым паверсе выпала 15-гадовая дзяўчына. Такім жа чынам загінуў пенсіянер, які спатыкнуўся ля сваёй кватэры, скаціўся па лесвіцы і вылецеў з акна.

**Павел МАЖЭЙКА.**

## "Начныя ваўкі" на новым матацыкле

**20 сакавіка ў мінскім клубе "Мэдзісан" адбудзецца шоу-прэзентацыя матацыкла "УРАЛ-ВОЛК". Арганізатарамі акцыі з'яўляюцца матаклуб "Начныя ваўкі" і кампанія "Кола" — афіцыйны дылер Ірбіцкага мотазавода ў Беларусі.**

Як паведамілі БелаПАН у клубе "Начныя ваўкі", праграмай шоу запланавана экстравагантная прэзентацыя матацыкла, якая будзе суправаджацца паказам арыгінальных мадэляў скуранога адзення. Апроч таго, гледачам прадэманструюць лепшыя фрагменты фільма пра Маскоўскае байк-шоу, экстрэмальны нумар з сярэдневяковай халоднай зброяй, акрабатычны нумар "вогненнае жангліраванне", выступленне мінскай групы "Драм Экстазі", праграму з элементамі эротыкі. Падчас шоу чакаецца таксама розыгрыш каштоўных спонсарскіх прызоў.

Гісторыя матацыкла "УРАЛ-ВОЛК" пачалася ў 1998 годзе, калі ад матаклуба "Начныя ваўкі" да ААТ "Ірбіцкі матацыклетны завод "Урал" (г.Ірбіт, Свярдлоўская вобласць Расіі), паступіла прапанова аб сумесным стварэнні новай мадэлі сучаснага матацыкла "Урал". Лепшыя інжынеры мотаатэльe "Wolf Engineering", якое ўваходзіць у склад матаклуба "Начныя ваўкі", і канструктары ІМЗ распрацавалі новы дызайн матацыкла, надаўшы пры гэтым асаблівую ўвагу тэхнічным характарыстыкам і якасці мадэлі. 31 мая 1999 года была запатэнтавана марка "ВОЛК" і наладжаны серыйны выпуск гэтага матацыкла Ірбіцкім мотазаводам.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Пакрыўдзілі "Беларуськалій"

**49 мільёнаў долараў ЗША — такая сума валютнай выручкі, якую недаатрымаў летась адзін з вядучых беларускіх экспарцёраў, салігорскае вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій".**

Вытворчасць у Беларусі калійных угнаенняў у 2000 годзе склала 93 працэнты ад узроўню 1999-га. Прычынай таму, як тлумачаць спецыялісты, стала нестабільная ў апошнія 2 гады сітуацыя на сусветным рынку калійных угнаенняў, што выклікана значным скарачэннем іх закупак асноўнымі імпарцёрамі — Кітаем і Індыяй. Апрача таго, летась значна павялічыліся затраты па транспарціроўцы ўгнаенняў спажыўцам. Гэта прывяло да неканкурэнтаздольнасці беларускіх калійных угнаенняў па цане і рэзкім скарачэнні іх продажу ў краіны СНД.

**Вікторыя МЯЖЫЕВА.**

## "Нафтан" скараціў перапрацоўку нафты

Як адзначаюць спецыялісты прадпрыемства, скарачэнне аб'ёмаў перапрацоўкі нафты адбылося з-за памяншэння паставак вуглевадароднай сыравіны на Наваполацкі НПЗ расійскімі нафтавымі кампаніямі. Па стане на 13 сакавіка 2001 года з пачатку месяца на ВА "Нафтан" пастаўлена 150 тысяч тон расійскай нафты, ці 73 працэнты да аналагічнага перыяду мінулага года.

Скарачэнне аб'ёмаў перапрацоўкі нафты, як лічаць у кіраўніцтве аб'яднання, з'яўляецца часовым. Асноўнай прычынай стала тое, што з 1 сакавіка 2001 года ўрадам Беларусі ўведзены пошліны на ўвозімую ў краіну вуглевадародную сыравіну. Камерцыйныя структуры, якія пастаўляюць нафту на беларускія НПЗ, знізілі яе пастаўкі, як бывае заўсёды пры прыняцці такіх рашэнняў.

**Даведка БелаПАН.** Згодна з пастановай Савета міністраў краіны ад 26 студзеня 2001 года №101, устаноўлена, што пры вывазе з мытнай тэрыторыі Беларусі за межы дзяржаў — удзельніц Мытнага саюза з 1 сакавіка ўведзены пошліны на нафтапрадукты пры экспарце: па светлых нафтапрадуктах — 30 еўра, па мазуце — 31 еўра.

**Вікторыя МЯЖЫЕВА.**

# Адзін у полі не воін

### *Рабочая самадапамога: ад пасылак да прэзідэнцкай кампаніі*



*У Гомелі былі затрыманы міліцыяй прадстаўнікі ініцыятывы "Рабочая самадапамога", якія амаль у самым цэнтры горада, на прывакзальнай плошчы, сустрэліся прыблізна са 150 жыхарамі з мэтай перадаць ім пасылкі. Адзін з арганізатараў гэтай акцыі, былы дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, старшыня рабочага саюза Беларусі Сяргей Антончык адказаў на пытанні журналіста.*

— Роўна год таму рабочымі беларускіх прадпрыемстваў (трактарнага, аўтазавода, маторнага, камвольнага камбіната, БелВАР, электра-тэхнічнага, Інтэграла ды іншых) быў створаны рабочы саюз "Адзінства", падобным на тыя, што з'явіліся яшчэ ў 80-х гадах. Паводле ўсіх існуючых юрыдычных правіл, прайшла ўстаноўчая канферэнцыя. Але, груба парушаючы законы і Канстытуцыю, на жаль, гэтую арганізацыю не зарэгістравалі, і мы вымушаны зараз працаваць як грамадская ініцыятыва, якую і называем "Рабочая самадапамога".

**— Добра, што вы прапаведуеце, скажам так, незвычайны альтруізм у наш час, але ён усё ж не з'яўляецца адзіным аргументам у вашай дзейнасці?**

— Асноўная мэта — прывіццё салідарных адносін паміж працоўнымі людзьмі. Іх у Беларусі пражывае больш за тры мільёны, і ў пачатку 90-х, калі памятаеце, на мітынгі прыходзілі адразу да 100 тысяч з іх. Што, мы лепей сталі жыць зараз, ці, прабачце, гэтыя людзі памерлі? Відавочна, не! Яны страцілі магчымасць, жаданне аб'яднацца, страцілі давер не толькі да ўлады, але адзін да аднаго. І мы паставілі задачу праз сістэму самадапамогі працягнуць руку да кожнага з іх, каб той, у сваю чаргу, дапамог і суседу.

Сістэма, якую мы ўтварылі, дзейнічае на падставе салідарнай падтрымкі і валанцёрства. Кожнаму, з кім мы працуем, прапануем прывесці з сабой у наступны раз, па магчымасці, яшчэ пяць чалавек, якім ён бы хацеў дапамагчы. Кожны з гэтых пяці зноў знаходзіць чарговую пяцёрку і гэтак далей; такім чынам мы ахопліваем усё больш і больш рабочых.

Карацей кажучы, мы робім адну сям'ю, якая можа разлічваць на кожнага.

Зараз ідзе шмат звальненняў з працоўнага месца за ўдзел у палітычным жыцці. Не сакрэт, што, калі гэта адбываецца, работнік застаецца ў выбары будучага шляху адзін. Калі, напрыклад, звольнілі мяне, я абышоў чатырнаццаць прадпрыемстваў(!), але як быў беспрацоўным, так і застаюся ім дагэтуль. Ніхто мне не дапамог: ні партыйныя, ні прафсаюзныя, ні тым больш дзяржаўныя структуры. Я быў дастаткова вядомым чалавекам, але ў выніку застаўся сам-насам.

Сёння нічога не змянілася. Можа, гэта гучыць вельмі журботна, але атрымліваецца амаль па Рэмарку: "Кожны памірае адзінокім". Той, хто нават і хоча ўдзельнічаць у жыццёвым, палітычным працэсе, пры існуючых абставінах раз'яднанасці адвернецца ад усяго. І нават у сучасны, важкі момант. Мы і спрабуем разарваць гэтае кола. Улада пакуль у гэтым не перашкаджала нам, мы працуем у гэтым накірунку доўгі час, але здарэнне ў Гомелі паказвае, што ўлады Беларусі баяцца не толькі складаных палітычных рэчаў, а вельмі простых — каб мы не дапамагалі адзін другому.

Што датычыцца акцыі, якую нам па віне міліцыі сапсавалі, яна будзе мець працяг, і ў бліжэйшы час мы зноў вернемся туды. Увогуле, мы плануем устанавіць структуры рабочай самадапамогі на амаль усіх прадпрыемствах Мінска і ў рэгіёнах.

**— Як усё адбываецца практычна, адкуль, прабачце, бяруцца грошы на пасылкі?**

— Наконт сродкаў... Проста кажучы, знайшліся багатыя людзі, якія паверылі ў нашу ідэю. Дзякуй Богу, ёсць яшчэ патрыёты ў нашай Айчыне, але, шчыра кажучы, надалей мы, у час правядзення з'езда рабочых, плануем прыняць рашэнне аб стварэнні сваёй, так званай народнай касы.

І хачу падкрэсліць, мы не бяром і не возьмем аніводнай капейкі ні з Захаду, ні з Усходу.

Нашы структуры працуюць не толькі ў Мінску, але і ў іншых месцах. Ёсць тут і свае чэмпіёны. Напрыклад, на камвольным камбінаце ў яе ўваходзяць 250 чалавек. Чаму такая дакладнасць? Справа ў тым, што мы праводзім анкетаванне, падлік і кожнага свайго, скажам так, сябра, ведаем у твар. Што нам дала гэтая лічба практычна? Хаця б тое, што такой колькасці хапіла, каб забалаціраваць у час выбараў у "палатку" кандыдата ад улады з Ленінскага раёна... Дзейсна, ці не так?

**— Якія ў вас адносіны з прафсаюзамі?**

— Што датычыцца дзейнасці прафсаюзаў, дык яны павінны ставіць не толькі эканамічныя задачы, але і палітычныя. А калі яны гэтага не робяць і тым больш не вырашаюць, дык з'яўляюцца не слугой народа, а, кажучы мовай палітэканоміі, надбудовай адміністратыўнага базісу. Вось чаму іх не любяць у нашай краіне, вось чаму на мітынгі выходзіць некалькі тысяч чалавек замест велізарнай грамады. Калі прафсаюзы не з'яўляюцца носьбітамі спадзяванняў і думак працоўных, яны не карыстаюцца папулярнасцю. Да нас звяртаюцца больш, чым да прафлідэраў. Дарэчы, сваёй дзейнасцю мы як бы правакуем прафсаюзы на добрыя справы: кідайце свае ўтульныя кабінеты, ідзіце да прахадных, да рабочых, рабіце добрае, дапамагайце ім, бо салідарнасць — гэта ёсць асноўная справа і задача прафсаюзаў. Але на жаль, гэты заклік не чапае іх счарсцвелыя сэрцы, як кажуць у народзе, сыты галоднага не разумее.

**— Раскажыце, як будуюцца вашы акцыі?**

— Гэта вельмі цёплыя сустрэчы сяброў. Звычайна: выступ аб мэтах рабочай самадапамогі, адказы на розныя пытанні. Потым — раздача пасылак, падарункаў (падлеткам да 14 гадоў). Кожная сям'я можа атрымаць за месяц па тры пасылкі (у адной — мука, цукар, грэчка, алей, тушонка і гэтак далей). Збіраем актыў, аналізуем, як праходзіла сустрэча і па запрашэнні візітуем сем'і, дзе працягваем размову.

**— Сяргей Антонавіч, хто складае ядро тых, каму вы дапамагаеце?**

— Большай часткай мы сустракаемся з рабочымі, беднымі па эканамічным паказчыку, тымі, хто не ўваходзіць ні ў адну палітычную арганізацыю ці апазіцыйную структуру. Якіх называюць на палітычных тусоўках не інакш, як "балота".

— Дык вось, сярод іх мы знайшлі і ўвесь час адшукваем тысячы разумных, свядомых людзей, якія шукаюць выйсце з цяперашняй жабрацкай долі. Яны імкнуцца выкарыстаць свае сілы на карысць Бацькаўшчыны, гатовы на барацьбу супраць рэжыму.

**— Чаму яны гэтага не рабілі раней?**

— Галоўнае — недавер да ўсіх. Стаміліся людзі ад хлусні, абяцанак...

А вось да нас яны прыслухоўваюцца, таму што і мы з іхняга асяроддзя, такія ж небаракі ў гэтым жыцці. І простая дапамога сугучна з нашымі хрысціянскімі традыцыямі, нашай беларускай маральнасцю. Чым можам, тым і дапамагаем падтрымаць іх дрэнны эканамічны стан.

**— Але, як вядома, эканоміка — не што іншае, як працяг палітыкі. Таму, калі яна дрэнная, дык...**

— Згодны. І мы ўбачылі, што гэтыя людзі гатовы ўдзельнічаць у палітычных акцыях. Яны самі разумеюць, хто вінаваты ў рэзкім пагаршэнні жыцця. Да нас звяртаюцца тыя, каму ўлада не дапамагла. Гэта прынцыпова і такіх зашмат. Нават — не большасць, а практычна ўсе. У час размовы пытанні аб палітыцы ўзнікаюць усё часцей. І вось што важна. Людзі не падтрымаюць кандыдата ад якой-небудзь партыі, тым больш наменклатуры, нават і былой. Яны шукаюць свайго кандыдата, ад народа. Чалавека зусім новага, але зразумелага ім.

Мне здаецца, яны не падтрымаюць тых, хто ў свой час абслугоўваў уладу Кебіча ці Лукашэнкі: Чыгір, Казлоўскі, Ганчарык... Людзі згодны падтрымаць свайго народнага кандыдата, які будзе незалежным і ад апазіцыі, і, галоўнае, ад Лукашэнкі.

Трэба, па-першае, перайсці з фармата супрацьстаяння "Лукашэнка — супраць апазіцыі" ў фармат "Народ — супраць улады". Зараз атрымліваецца, нібы толькі адна апазіцыя змагаецца з уладай, а народ быццам збоку стаіць, назірае.

Па-другое, трэба адысці ад фармата "Агульны кандыдат ад апазіцыі" да "Агульны кандыдат ад народа".

Новая, рабочая хваля можа запатрабаваць свайго кандыдата, народнага. Такі расклад вельмі небяспечны для ўлады. Бо парушаецца сцэнар, які даўно ўжо падрыхтаваны прэзідэнцкай адміністрацыяй, які разгортваецца зараз на нашых вачах.

Выбары па нашым сцэнары — ёсць наша перамога. Я хацеў бы каб гэта зразумела ў першую чаргу беларуская апазіцыя. Беларускія рабочыя гэта ўжо разумеюць.

**Гутарыў Уладзімір ДАЎЖЭНКА.**



Мікіта Яцкоўскі (на здымку) вучыцца ў сярэдняй школе №38 г.Магілёва. Аднačасова ў спартыўнай школе ён засвойвае мастацтва бокса. Ужо мае першыя перамогі.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БелТА.**

## Падзенне працягваецца

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, у студзені—лютым 2001 года аб'ём валавога ўнутранага прадукту Беларусі вырас толькі на 0,6 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Для параўнання: у студзені—лютым 2000 года рост ВУП склаў 7 працэнтаў у параўнанні са студзенем—лютым 1999 года, а па выніках 2000 года ВУП павялічыўся на 6 працэнтаў.

Рост прамысловай вытворчасці за два месяцы гэтага года склаў 1,8 працэнта (у студзені—лютым 2000 года у адносінах да студзеня—лютага 1999 года — 8,6 працэнта). Вытворчасць спажывецкіх тавараў знізілася на 2,5 працэнта (рост на 11,6 працэнта), у тым ліку харчовых — на 5,3 працэнта (рост на 8,6), алкагольных напояў — на 9,4 працэнта (рост на 9,1) і толькі выпуск нехарчовых тавараў павялічыўся на 1,3 працэнта (на 14,6).

Рост сельскагаспадарчай вытворчасці зафіксаваны на ўзроўні 1,8 працэнта (год таму — падзенне на 8,4 працэнта). Вытворчасць малака павялічылася на 8 працэнтаў (падзенне на 17 працэнтаў), рэалізацыя жывёлы і птушкі (у жывой вазе) — на 3 (падзенне на 4 працэнты). У той жа час вытворчасць яек знізілася адразу на 15 працэнтаў (у студзені—лютым 2000 года быў зафіксаваны рост на 5 працэнтаў).

Інвестыцыі ў асноўны капітал павялічыліся на 0,4 працэнта (у студзені—лютым 2000 года — на 8 працэнтаў). Аб'ём уведзенага ў эксплуатацыю жылля знізіўся на 18,1 працэнта (год таму быў зафіксаваны рост на 75,6 працэнта), у тым ліку ў сельскай мясцовасці — на 20,2 працэнта (рост на 90,8 працэнта).

Прыкметна знізіўся грузаабарот прадпрыемстваў транспарту агульнага карыстання — на 13,9 працэнта (год таму — рост на 19,8 працэнта). Аб'ём перавозак чыгуначным транспартам знізіўся на 14 працэнтаў (рост на 21,9 працэнта), аўтамабільным — на 13,7 (зніжэнне на 7,7).

Рознічны тавараабарот вырас у студзені — лютым на 16,1 працэнта (год таму — на 19,3), аб'ём платных паслуг — на 1,6 (на 10,9).

Спажывецкія цэны павялічыліся за люты на 3,9 працэнта (у лютым 2000 года — на 9,3 працэнта), з пачатку года — на 8,8 працэнта (за два месяцы 2000 года — на 24,7 працэнта).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Урад забыў пра чарнобыльскую праграму?

*Па выніках двух месяцаў 2001 года праграма ліквідацыі і мінімізацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 2001—2005 гады прафінансавана ўсяго на 10 працэнтаў ад гадавога плана.*

Пра гэта на пасяджэнні пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанні паведаміў старшыня Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на ЧАЭС Уладзімір Цалко. Паводле яго слоў, запазычанасць Міністэрства фінансаў перад чарнобыльскім ведамствам на сёння складае 5 мільярдаў рублёў (3 мільярды — па сацыяльных праграмах і 2 — па капітальным будаўніцтве).

Як адзначыў Уладзімір Цалко, напярэдадні 15-й гадавіны катастрофы на ЧАЭС урад абавязаўся ў прыярытэтным парадку фінансаваць усе мерапрыемствы, звязаныя з рэалізацыяй чарнобыльскай праграмы. Аднак два першыя месяцы года паказалі, што "ніякага прыярытэту няма". Магчыма, сказаў Цалко, гэта звязана з тым, што і сам бюджэт краіны пакуль выконваецца на 85 працэнтаў ад плана.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## О назначении выборов Второго Президента Республики Беларусь и организационных мероприятиях по обеспечению их проведения

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

до регистрации инициативной группы граждан по выдвижению его кандидатом в Президенты Республики Беларусь представить народу Республики Беларусь достоверные сведения о своей работе в качестве Президента Республики Беларусь за период с 1994 года по 2001 год;

не допускать использования государственных средств для создания или изменения имиджа А.Г.Лукашенко, иных скрытых форм предвыборной агитации, кроме средств, выделяемых кандидатам в Президенты Республики Беларусь для проведения избирательной кампании;

в целях соблюдения статьи 73 Избирательного кодекса Республики Беларусь со дня регистрации инициативной группы граждан по выдвижению его кандидатом в Президенты Республики Беларусь и на весь период его участия в выборах приостановить исполнение полномочий Главы государства с возложением указанных полномочий на премьер-министра Республики Беларусь;

в 10-дневный срок привести законодательство Республики Беларусь в соответствие с рекомендациями ОБСЕ и ее органов путем принятия соответствующих временных декретов Президента Республики Беларусь, а также не допускать иных изменений избирательного законодательства;

2.4. Совету Министров Республики Беларусь:

обеспечить проведение государственными органами, иными организациями мероприятий по подготовке и проведению президентских выборов;

до 16 апреля 2001 года установить порядок предоставления в распоряжение избирательных комиссий помещений, оборудования, средств связи и транспортных средств, необходимых для подготовки и проведения выборов;

решить вопросы финансового и иного материально-технического обеспечения президентских выборов;

2.5. Совету Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь:

принять меры по обеспечению международного признания легитимности настоящего Постановления;

до 10 апреля 2001 года на основании предложений депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь (не менее 5 депутатов) или граждан (не менее 1000 избирателей) создать группу для координации деятельности государственных органов по подготовке и проведению президентских выборов;

2.6. Прокуратуре Республики Беларусь, Верховному Суду Республики Беларусь, Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов пресекать случаи предвзятого отношения к кандидатам в Президенты Республики Беларусь, а также случаи нарушения законодательства Республики Беларусь указанными кандидатами;

2.7. Прокуратуре Республики Беларусь, Комитету государственной безопасности Республики Беларусь, Министерству внутренних дел Республики Беларусь обеспечить в ходе подготовки и проведения президентских выборов:

соблюдение законности и общественного порядка, а также исполнение настоящего Постановления всеми должностными лицами и иными гражданами Республики Беларусь;

свободу участия граждан в президентских выборах и предвыборных мероприятиях;

2.8. Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов:

в 10-дневный срок со дня принятия настоящего Постановления обеспечить принятие решений методического и иного нормативного характера, необходимых для проведения президентских выборов;

до 16 апреля 2001 года определить порядок использования государственных средств массовой информации в предвыборной кампании;

в установленные законодательством сроки обеспечить образование областных, Минской городской, районных, городских (в городах областного подчинения) и иных комиссий по выборам Президента Республики Беларусь. При этом включать в состав комиссий лиц, в поддержку которых высказалось максимальное количество избирателей, проживающих на соответствующей территории;

составить смету расходов на подготовку и проведение президентских выборов в пределах средств, предусмотренных на эти цели в республиканском бюджете, и утвердить ее по согласованию с Палатой представителей Национального собрания Республики Беларусь до 16 апреля 2001 года;

приступить к регистрации инициативных групп граждан по выдвижению кандидатов в Президенты Республики Беларусь с 16 апреля 2001 года;

в целях дополнительного финансирования избирательной кампании создать внебюджетный фонд по проведению выборов для добровольного перечисления в него средств организаций, общественных объединений и граждан и до 16 апреля 2001 года по согласованию с Палатой представителей Национального собрания Республики Беларусь утвердить положение об этом фонде;

2.9. Государственному комитету по печати Республики Беларусь обеспечить изготовление:

по заказу Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов — документов по президентским выборам, издаваемых централизованно;

по заказам избирательных комиссий и кандидатов в Президенты не позднее чем за пятнадцать дней до выборов — предвыборных плакатов и не позднее чем за девять дней до выборов — бюллетеней и открыток-сообщений;

2.10. Министерству связи принять меры по обеспечению Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов, иных избирательных комиссий необходимыми средствами связи;

2.11. Президиумам областных, Минского городского, районных, городских Советов депутатов, областным, Минскому городскому, районным, городским, поселковым, сельским исполнительным комитетам, районным администрациям в городах обеспечить выполнение в установленные Избирательным кодексом Республики Беларусь сроки всех отнесенных к их компетенции организационных мероприятий по подготовке и проведению президентских выборов, содействовать избирательным комиссиям в осуществлении ими своих полномочий, обеспечить своевременное предоставление им необходимых для работы помещений, оборудования, средств связи, транспортных средств, а также сведений и материалов;

2.12. средствам массовой информации:

при освещении президентских выборов руководствоваться исключительно Конституцией и законами Республики Беларусь. Незаконное требование в отношении средств массовой информации исполнению не подлежит и пресекается прокуратурой, иными правоохранительными органами Республики Беларусь по заявлению соответствующего средства массовой информации;

по согласованию с кандидатами в Президенты Республики Беларусь предоставить им равные возможности для выступления в соответствующих средствах массовой информации.

3. Контроль за исполнением настоящего Постановления и принятие мер по его соблюдению возложить на Совет Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь.

4. Постановление вступает в силу с момента его принятия и в соответствии с частью седьмой статьи 56 Избирательного кодекса Республики Беларусь обнародуется в средствах массовой информации на следующий день.

**Председатель Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь.**

Навіны

## Будаўнічая выстава

**230 фірм з Беларусі, Расіі, Чэхіі, Украіны, Літвы, Славакіі, Германіі бяруць удзел у 4-й міжнароднай спецыялізаванай выставе "Будэкспа-2001", якая адкрылася 13 сакавіка ў Мінску. Арганізавалі яе Нацыянальны выставачны цэнтр "Белэкспа", міністэрствы архітэктуры і будаўніцтва, прамысловасці і жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Удзел у адкрыцці ўзялі кіраўнікі шэрагу міністэрстваў, Мінгарвыканкама, прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу.**

Тэматыка ўключае 19 раздзелаў, у якіх прадстаўлены будаўнічыя матэрыялы і тэхналогіі іх вытворчасці, будаўніча-сталярныя вырабы, інструменты і абсталяванне, горадабудаўніцтва і архітэктура, будаўніцтва дзелавых і гандлёвых будынкаў, дызайн і інтэр'ер, тэхнічнае аснашчэнне, еўрарамонт і перапланіроўка будынкаў, механізацыя ў будаўніцтве і шмат іншага.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## "Глабальны рух у інтарэсах людзей"

**У Гродне і Гродзенскай вобласці рэалізуецца нацыянальны праект "Глабальны рух у інтарэсах людзей", арганізатарамі якога выступілі Беларускі нацыянальны маладзёжны савет (БНМС) і прадстаўніцтва UNISEF у Беларусі. Паводле слоў каардынатара праекта па Гродзенскай вобласці Марыі Багаслоўскай, мэта гэтай ініцыятывы — уцягненне дзяцей у актыўную дзейнасць па змяненні свайго становішча ў грамадстве, задавальненне іх інтарэсаў і правоў на самаразвіццё і адукацыю.**

Пакуль арганізатары праводзяць азнаямленне з праектам у раённых камітэтах па справах моладзі. У перспектыве плануецца стварыць з актыўных маладых людзей рабочую групу па арганізацыі розных мерапрыемстваў. Будуць, напрыклад, праведзены шэраг адукацыйных семінараў, а ўлетку запланавана акцыя "Мая прапанова сусветным лідэрам".

**Павел МАЖЭЙКА.**

## Дні псіхічнага здароўя

**З 7 па 21 красавіка ў рамках мерапрыемстваў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў Беларусі ўпершыню будуць праведзены Дні псіхічнага здароўя.**

Мэта — змяніць стаўленне грамадства да псіхічных хворых, прыцягнуць увагу дзяржавы і насельніцтва да стану псіхічнага здароўя грамадзян, змяніць стэрэатыпы ў грамадскай свядомасці ў дачыненні да псіхічна хворых.

Урадам зацверджаны план мерапрыемстваў па правядзенні Дзён псіхічнага здароўя. Ён уключае ў сябе мноства самых розных мерапрыемстваў па ўсёй краіне. Гэта будуць як вузкаспецыяльныя мерапрыемствы, прызначаныя для урачэбнай аўдыторыі, так і акцыі, разлічаныя на шырокія слаі насельніцтва.

**Аляксей АРЭШКА.**

Кто есть кто

## Михаил БОРОВОЙ: "Профессионализм еще никогда никому не повредил"

**Справка:** *Михаил Иванович Боровой родился в 1956 году, имеет два высших образования (инженер-механик и менеджер-экономист), президент ЗАО "Белавтогаз", в октябре 2000 года избран депутатом Палаты представителей Национального собрания Беларуси по Дзержинскому избирательному округу №80, возглавляет постоянную парламентскую Комиссию по промышленности, топливно-энергетическому комплексу, транспорту, связи и предпринимательству. Беспартийный.*

**— Что побудило известного предпринимателя Михаила Борового баллотироваться в парламент?**

— Последние годы моей жизни тесно связаны с практической производственной деятельностью. Несмотря на тяжелейшие условия, с которыми столкнулась белорусская экономика в последние десять лет, "Белавтогаз" все это время интенсивно развивался, и его трудовой коллектив за эти годы вырос с 30 до 300 человек. Мы сумели развить параллельно 12 видов деятельности. Поэтому, имея практические наработки, я хотел использовать накопленный опыт в законодательной деятельности. Считаю, что сегодня белорусская экономика, в том числе и частный сектор, могла бы развиваться более интенсивно. Для этого есть все необходимые условия, однако не хватает соответствующей законодательной базы. Хотя мы видим, что некоторое поступательное движение в экономике есть: заработали крупные государственные предприятия. Однако я считаю, что более активно надо также развивать мелкий и средний бизнес, который будет в удельном весе экономики создавать внушительную цифру.

**— Какие первоочередные задачи необходимо решать парламенту и комиссии по промышленности?**

— Комиссия наша работает очень интенсивно. Наши взгляды направлены в первую очередь на развитие экономики, а не на решение каких-то политических задач. На сегодняшний день основные фонды промышленных предприятий устарели на 65—70 процентов, вымыты их оборотные средства. Где их взять? Путей много. Например, совершенствование налогооблагаемой базы. Практика других государств показывает, что исчисление налогов из оборотов предприятий затрудняет и сокращает развитие и денежный капитал этих предприятий. Далее, можно и нужно развивать новые производства, расширять рынки сбыта продукции, повышая при этом ее конкурентоспособность, добиваться роста оборота предприятий и, наконец, — привлекать иностранные инвестиции. Подсчитано, что Беларуси надо порядка 30 миллиардов долларов инвестиций. Но для того, чтобы инвестор пришел в Беларусь, необходима нормальная законодательная база и нормальные законодательные гарантии для инвесторов. Задача и парламента, и правительства, и президента состоит в том, чтобы все эти вопросы решались не на словах, а на деле.

**— Как Вы считаете, есть ли в парламенте группа единомышленников, которые разделяют эти взгляды?**

— Конечно, я не одинок в своих взглядах. Есть группа депутатов, которая мыслит категориями сегодняшнего дня. Возможно, нам необходимо рассмотреть вопрос о создании, скажем, промышленно-финансовой группы, в которую вошли бы те, кто работает над решением проблем экономики и финансов. Нужно только посоветоваться с коллегами: если это будет приносить положительный результат, тогда игра стоит свеч. Но самое главное — достичь конкретного эффективного результата. Если это удастся, значит, мы не зря пришли в парламент.

**— Волнует ли Вас проблема расширения полномочий парламента?**

— Это сложный вопрос. Я считаю, что эти вопросы должны происходить из нашей практической деятельности. Мне бы, к примеру, хотелось, раз уж мы работаем с определенными министерствами и ведомствами, чтобы при назначении их руководителей точка зрения комиссии по промышленности также учитывалась. Что касается других полномочий, то для этого необходимо сперва разобраться, что тебе конкретно надо. Для меня важно разобраться с теми полномочиями, которые у парламента уже есть.

Кроме того, сейчас в парламенте готовится ко второму чтению проект закона "О национальном собрании". И комиссия наша предложила уже много поправок в него, и многие из них уже одобрены. Меня удивляет, что в проекте есть много неточностей даже редакционного характера. К примеру, написано, что мы должны устанавливать сроки выборов предыдущего президента. Кто у нас в Беларуси предыдущий президент? Мне говорят, что это конституционная норма. Если это так, то, значит, необходимо подчистить Конституцию. Почему мы должны тиражировать эти ошибки?

**— Депутаты первого созыва ставят себе в заслугу принятие огромного числа законов. Как Вы оцениваете их законотворчество?**

— К законам ни в коем случае нельзя подходить количественными категориями. Они должны измеряться содержанием и предоставляемыми ими возможностями развивать те или иные сферы деятельности. Наша задача — создавать такие законы, которые не потребуют доработки сразу же после их принятия и будут действовать в ближайшие годы в увязке с перспективой развития нашего законодательства. Вообще и меня лично, и комиссию в целом не удовлетворяет качество вносимых в парламент законопроектов. Практически все они уже в первом чтении требуют значительной переработки. Повышению качества законопроектов будет способствовать и перевод парламентской деятельности на профессиональную основу. Это позволит в большей мере сосредоточиться на законотворчестве. Тем более что это условие осуществления парламентской деятельности оговорено Конституцией. Профессионализм еще никому никогда не повредил.

**Юрий ПОТЕМКИН.**

